ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.21 (3141) ● ● ЧАЦВЕР, 11 чэрвеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY




Інвестыцыі ў інтэлект Стар. 2



Знічкі Айчыны Стар. 3



Калі чуеш "шэпт нябёсаў"...
Андрэй Шацілін некалі спасцігаў у Мінску філасофскую навуку, менавіта тут прэзентаваў і сваю чарговую кнігу паэзіі Стар. 4

СТАСУНКІ

## Хто ўмее сябраваць

### Шмат дзе ў рэгіёнах краіны здолелі наладзіць цесныя партнёрскія сувязі з арганізацыямі суайчыннікаў за мяжой

**Іван Яцкавец**




Беларускія фальклорныя фестывалі збіраюць землякоў з усяго свету

Жывая і па сёння традыцыя талакі, сумеснай працы, скажам, на будаўніцтве новага дома, уборцы ўраджаю сведчыць: мы добра засвоілі спрадвечную мудрасць сяброўства.

Цяпер, як бачна, стваральны патэнцыял беларускай талакі набывае іншы маштаб: мы вучымся сумесна працаваць і на міжнародным узроўні. Кіраўніцтва шэрагу рэгіёнаў Беларусі не проста запрашае землякоў з замежжа "разам патанцаваць ці паспяваць" на святах, але і наладжвае з імі дзелавое, узаемакарыснае супрацоўніцтва ў будзённых справах. Заахвочвае такія кантакты і дапамагае іх наладжваць апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі.

"Мы праводзім конкурс "Адміністрацыйны рэгіён Беларусі – арганізацыя суайчыннікаў за мяжой" дзеля таго, каб скарыстаць вялікі патэнцыял дыяспары, пашырыць дзелавыя кантакты, супрацоўніцтва землякоў замежжа з беларускімі рэгіёнамі, — патлумачыў стратэгію такіх захадаў на нядаўняй сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх суполак замежжа Упаўнаважаны Леанід Гуляка. — У сённяшніх умовах дапамога суайчыннікаў у наладжванні партнёрскіх сувязяў з замежжам надзвычай актуальная. Мяркую, у суполак абавязкова ёсць кантакты з мясцовымі адміністрацыямі. Калі вы паспрыяеце наладжванню сувязяў з нашымі вытворцамі, то карысць ад гэтага будзе ўсім. Вядома, напрамую мала хто з вас гандлюе з Беларуссю. Але ваш аўтарытэт – таксама сіла, і яе варта плённа выкарыстоўваць".

Вядома, дапамагаць дзелавым людзям — гэта, на першы погляд, не так эфектна, як ладзіць культурна-асветніцкія мерапрыемствы. І вынік бачны не адразу. Аднак дзякуючы гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву з рэгіёнамі Беларусі, лічыць Леанід Гуляка, дыяспара зможа набіраць ачкі ў сваёй рабоце: "Мясцовая ўлада вас толькі больш пачне паважаць, калі ўбачыць вас і ў такой справе, што вы ўмееце не толькі фестывалі і конкурсы праводзіць, не толькі спяваць ды танцаваць. Вядома ж, і гэта патрэбна, аднак мы жывем у прагматычным свеце. І таму такімі, я б сказаў, эканамічна-палітычнымі пытаннямі суполкам, на мой погляд, таксама варта займацца". → Стар. 2

ВЕСТКІ

## На ганаровым месцы

**Паштовая марка "Напалеон Орда" ўвайшла ў дзесятку лепшых на конкурсе ў Вене**




Гэта адбылося на міжнародным конкурсе "Вялікі прыз выставы WIPA 2007".

Сярод прэтэндэнтаў на званне лепшых значыліся паштовыя адміністрацыі больш чым 70 краін, якія даслалі на конкурс свае самыя прыгожыя выпускі марак 2007 года.

Журы, якое складаецца з вядомых мастакоў марак, прадстаўнікоў аўстрыйскай пошты, дзяржаўнай друкарскай карпарацыі, філатэлістычнай прэсы зрабіла выбар на карысць Славакіі (першае месца і тытул "Самая прыгожая марка свету 2007 года", краіне прысуджаны кубак "Галоўны прыз выставы WIPA" за мастацкае афармленне малога ліста з адной маркай "Браціслаўскі Замак"); Чэшскай Рэспублiцы (другое месца за блок "Мост Чарльза"); Швецы (трэцяе месца за блок з двух марак у гонар 300-й гадавіны з дня нараджэння батаніка Карла Лінея). Маркі з Ісландыі і Бразіліі падзялілі чацвёртае і пятае месцы, Чылі заняла шостае месца за счэпку з трох марак, Украіна — сёмае, Ліхтэнштэйн — восьмае, Ганконг — дзявятае і Беларусь — дзесятае месца за блок з двух марак, прысвечаны 200-годдзю беларускага пісьменніка, мастака і музыканта Напалеона Орды.

ПЕРАЕМНАСЦЬ

## Прастора для творчасці

### У юных талентаў з Рэспубліканскай гімназіі-каледжа мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка хвалюючая пара: выпускныя экзамены і дыпломныя прагляды

**Іван Ждановіч**

Ад майстроў — вучыцца мудрасці, а ў юнацтва — чысціні... Не прыпомніцца ўжо, чый такі прыгожы радок. А вось да яго і жывая ілюстрацыя: "Дрэвы жыцця, альбо Усмешка юнай вясны" — так назваў бы я пакуль што безыменны твор юнай мастачкі з нядаўняга прагляду. Моцныя вясковыя хаты з пачарнелых ад часу бярвёнаў. Пабудовы, нібы самі старыя вяскоўцы, упэўнена дамінуюць у цэнтры карціны, як урослыя ў зямлю, і самі пад яе колер. Калісьці ж, дамалёўвае свядомасць светлыя згадкі майго дзяцінства, тыя сасновыя зрубы ажно свяцiліся знутры, напоўненыя сонцам, духам жывіцы, маладою сілаю гаспадароў. Адчуваеш: гэтыя хаты шмат перажылі, і, здаецца, да драбніц спазналі таямніцы жыцця, прайшоўшы праз слоту, спякоту, маразы... Ды чаго вартая мудрасць чалавечая, калі ачарсцвела душа? А вокны ж хатаў, іх вочы на палатне – як знакі сконy, безнадзейныя і цёмныя... І сапраўдным азарэннем побач з хатамі — тонкія дрэўцы ў белай, яшчэ паўпразрыстай квецені. І такая лёгкасць, святочнасць праменіць ад іх! І столькі прастору, надзеі, перспектывы ў гэтым недаўгавечным квецені, на які, здаецца, адно дыхні – і асыплецца... → Стар. 2




Будучая мастачка К. Шымановіч


У гэтым новым будынку будзе месца і для IT-акадэміі

# Інвестыцыі ў інтэлект

## У кампаній-рэзідэнтаў беларускага Парка высокіх тэхналогій — спрыяльны час для імклівага росту

Алесь Сулкоўскі

Ізраільскія інвестары ўкладуць у беларускую Сіліконавую даліну паўмільярда долараў. Аб гэтым заявіў намеснік прэм'ер-міністра — міністр замежных спраў Ізраіля Авігдор Ліберман на брыфінгу ў Мінску. "Спадзяюся, праект стане флагманскім караблём, які дапамога і іншым інвестарам прыйсці ў Беларусь", — сказаў Авігдор Ліберман.

У сваю чаргу міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў лічыць, што гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва Беларусі і Ізраіля "пакуль не вызначаецца маштабамі". Паводле яго слоў, у Беларусі і Ізраіля ёсць добрыя перспектывы для сумеснай работы ў галіне сельскай гаспадаркі і харчавання, турызму, высокіх тэхналогій. Акрамя таго, Сяргей Мартынаў не выключае магчымасць удзелу ізраільскага бізнесу ў беларускіх энергетычных праграмах.

Варта адзначыць, што нядаўна ў Мінску ўзведзены ў строй новы будынак адміністрацыі Парка высокіх тэхналогій. У хуткім часе туды пераедзе частка супрацоўнікаў, там размесціцца бізнес-інкубатар ПВТ і яго IT-акадэмія. Ізраільская Fishman Group гатова інвеставаць грошы менавіта ў праект па стварэнні адзінага комплексу будынкаў Парка высокіх тэхналогій.

Дарэчы, як паведамілі ў адміністрацыі ПВТ, сёлета ў першым квартале аб'ём вытворчасці тавараў і паслуг кампаніямі-рэзідэнтамі Парка склаў больш за 70 мільярдаў беларускіх рублёў — амаль у паўтара раза больш, чым за аналагічны перыяд летась. Каля 40 працэнтаў экспарту прыходзіцца на краіны Паўночнай Амерыкі, 35 – Заходняй Еўропы, 20 — на краіны СНД. Лідэрамі сярод імпарцёраў беларускіх праграмных прадуктаў з'яўляюцца ЗША, Германія, Вялікабрытанія і Расія. Толькі сёлета заказчыкамі Парка сталі кампаніі з больш чым 40 краін, пры гэтым першыя кантракты заключаны з прадстаўнікамі з Бельгіі, Іспаніі, Ірана і Японіі.

СТАСУНКІ

# Хто ўмее сябраваць

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Як наладжвалася супрацоўніцтва летась? Нядаўна ў апараце Упаўнаважанага зрабілі аналіз сітуацыі. Прэс-сакратар Міхаіл Рыбакоў паведаміў, што матэрыялы на конкурсны разгляд падалі Клічаўскі і Дубровенскі райвыканкамы Магілёўшчыны, Ганцавіцкі Брэстчыны, Смаргонскі і Іўеўскі Гродзеншчыны, а таксама Навапалацкі і Віцебскі гарвыканкамы, адміністрацыя Фрунзенскага раёна Мінска. «У 2008 годзе дзякуючы ўзаемадзеянню выканаўчых і распарадчых органаў улады Беларусі з арганізацыямі суайчыннікаў за мяжой падпісаны новыя прамыя пагадненні аб супрацоўніцтве ў галінах культуры, адукацыі, спорту і турызму, гандлю і іншых паміж мясцовымі органамі дзяржкіравання Беларусі і краін знаходжання беларускіх суполак», — удакладніў ён. У прыватнасці, такія пагадненні падпісаны ўладамі Смаргонскага раёна і органамі самакіравання горада Вісагінаса (Літва), гарадскімі ўладамі Віцебска і Даўгаўпілса (Латвія). Амаль пяць гадоў адміністрацыя Фрунзенскага раёна Мінска супрацоўнічае з мэрыяй Маарду (Эстонія), а Навапалацкі гарвыканкам – з Беларускім культурным цэнтрам «Крок» з літоўскага Вісагінаса. Райвыканкам Іўя праз кіраўніка праекта «Карані: Ізраіль-Беларусь» падтрымлівае сталыя кантакты с ураджэнцамі Іўеўскага раёна, якія жывуць у замежжы.

А вось навіны з беларускага Палесся. Падпісана пагадненне паміж Ганцавіцкім райвыканкамам і грамадскай арганізацыяй «Беларуская сябрына Львоўскай вобласці» (Украіна) у сферы адукацыі. Наладжаны кантакты паміж Ганцавіцкім і Туркаўскім (Львоўшчына) раёнамі. За словамі ўжо ёсць справы: распрацавана і зацверджана праграма Ганцавіцкага райвыканкама па рэалізацыі пагаднення.

Аддзел культуры Дубровенскага райвыканкама ў якасці моцнай кансалідуючай сілы скарыстоўвае Міжнародны фестываль «Дняпроўскія галасы ў Дуброўне». Удзельнічаюць у ім, прычым ужо не адзін год, калектывы і выканаўцы з асяродкаў беларускай дыяспары Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Расіі і Польшчы.

Што ж, хто ўмее сябраваць, той і ў выйгрышы. За межамі Беларусі нядаўна Ганаровыя граматы Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, а таксама каштоўныя падарункі за пасляховую рэалізацыю праекта "Адміністрацыйны рэгіён Беларусі – арганізацыя суайчыннікаў за мяжой" атрымалі: Беларускі культурны цэнтр «Крок» (г. Вісагінас, Літва), Даўгаўпілскае беларускае культурна-асветніцкае таварыства «Уздым» (Латвія), Беларускае культурнае таварыства г.Вентспілса «Спадчына» (Латвія), грамадская арганізацыя «Беларуская сябрына Львоўскай вобласці» (г.Львоў, Украіна), Беларускае культурнае таварыства «Ялінка» (г. Маарду, Эстонія).

Граматы і каштоўныя падарункі ўручаны таксама іх дзелавым партнёрам у Беларусі. Іх атрымалі адміністрацыя Фрунзенскага раёна г. Мінска, Навапалацкі і Віцебскі гарвыканкамы, а таксама Дубровенскі, Ганцавіцкі, Іўеўскі, Клічаўскі і Смаргонскі райвыканкамы.

Як паведамілі ў апараце Упаўнаважанага, конкурс і цяпер прадаўжаецца. Як у ім паўдзельнічаць — можна даведацца на інтэрнэт-сайце апарата Упаўнаважанага.

ПЕРАЕМНАСЦЬ

# Прастора для творчасці

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Не ўпэўнены, што мастачка шмат "парыцца", як гаворыць моладзь, пра ўзаемаадносіны бацькоў і дзяцей, пераемнасць родавых традыцый ці сэнс быцця. Можа, і словы, якімі я спрабую тут апісаць яе твор і свае ўражанні, пададуцца ёй несучаснымі… Але я ўдзячны ёй за гэтую ціхую радасць: удыхнуць водар вясны, чысціні, аднаўлення свету. Выдам і невялічкі сакрэт, што трохі знаёмы з дзяўчынай. І ведаю: летам яна любіла гасцяваць у бабулі ў прыгожай вёсцы непадалёк ад Нясвіжа. А нядаўна бабулі не стала… То, можа, гэта і ціхі рэквіем у фарбах і вобразах па родным чалавеку, вясковым маленстве? Увогуле, "ад болю большае душа", як заўважыў паэт. І няма, мусіць, іншага шляху, каб спасцігаць таямніцы творчасці, ды і само жыццё, як праз гэты самы душэўны боль…

"Асцярожна: аголеная натура!" – неактуальны лісток на адной з майстэрань, знізу жартаўлівы подпіс: "Са стукам не ўваходзіць!". Побач на калідоры цеснацца мальберты, перапэцканыя фарбамі драўляныя крэслы, пры сцэнцы перавернуты і невялікі подыум, мусіць, для той самай "натуры". Іх вынеслі, вызваліўшы "экспазіцыйную прастору", якой тут падчас праглядаў традыцыйна становяцца і сцены, і падлога са слядамі імпрэсіянізму. Няма на гэтых выставах аніякага гламуру, але праз фарбы праблісквае талент, ёсць смелыя эскізы, дух сапраўднай творчасці і… моцны мандраж саміх юных мастакоў. Бо "аголеная натура" — гэта, мусіць, заўсёдны стан душы ўсіх адораных людзей, якіх любы "стук" можа балюча параніць. Адчувальнасць — і слабасць іх, і сіла.



ІВАН ЖДАНОВІЧ
Усе вучні ў педагога Алены Бараноўскай — таленавітыя і працавітыя

У ва ўсіх хлопцаў і дзяўчат з розных класаў, якія выстаўля-юць на суд экзаменатараў эскізы, накіды, эцюды, малюнкі алоўкам з прыгожых антычных бюстаў і гатовыя творы жывапісу, чуллівыя душы. Без гэткай "адмеціны", удакладняе выкладчыца групы мастакоўжывапісцаў 9 "Б-штрых" класа Алена Бараноўская, тут ніяк. Сама выкладчыца мае яшчэ і "пячатку адказнасці" за працяг сямейнай традыцыі: яна — дачка вядомага мастака Анатоля Бараноўскага. Дарэчы, займаецца ў каледжы нямала вучняў з вядомымі ў свеце мастацтва прозвішчамі: гены клічуць… Закончыўшы Акадэмію мастацтваў на пачатку 90-х, Алена была "на вольных мастацкіх хлябах", і ўжо тры гады яна ў каледжы. Між іншым, у Парнаце, як здаўна называюць выхаванцы "альма матэр", вучацца музыцы і выяўленчаму мастацтву дзесяткі адораных хлопцаў і дзяўчат з усёй Беларусі. А назва Парнат, адначасова "аранжарэйная" і са згадкай пра антычны Парнас, гавораць, узнікла як сімбіёз назвы тутэйшай вуліцы Парніковай і слова "інтэрнат", у якім жывуць вучні. Што тут скажаш: творцы!

Больш за 50 юных мастакоў сёлета заканчваюць гімназію. Далей? Гэта ўжо як каго павядуць Талент і Фартуна. Некаму свеціць каледж, і, можа, мастацтва стане самім жыццём, а камусьці давядзецца шукаць іншыя шляхі. Ад Алены Бараноўскай сыходзяць шэсць яе вучняў: сёстры-блізняты Вікторыя і Ксенія Мікульчыкі, Ксенія Дробыш, Кацярына Шымановіч, Юрый Лемешаў, Мікіта Панін. Выкладчыца просіць запомніць гэтыя прозвішчы, бо ўпэўнена: «Усе яны таленавітыя. І сярод іх практычна няма гультаяватых, а гэта — добры «стартавы капітал», каб нечага дасягнуць у мастацтве».

Кім яны стануць? Ну хто ж ведае… Некаму па душы дызайн, некаму — інтэр'ер, хтосьці «запаў» на творчасць з выкарыстаннем камп'ютарных тэхналогій. Між іншым, практычна ў кожнай рэчы, якую мы побач з сабой бачым, ёсць адбітак творчай думкі мастака. І вельмі да месца тут будзе згадаць светлую, сонечную карціну Кацярыны Шымановіч «Возера маёй душы». Рознакаляровы свет, што зіхацць навокал намаляванага ёю возера, вельмі дзіўна і стракатa адбіваецца ў люстры вады. І якому ж колеру будзе аддадзена перавага, калі душа мастачкі пасталее?

…Цікава, а ці патрапяць калі-небудзь творы сёлетніх выпускнікоў гімназіі Парната на прэстыжныя мастацкія аўкцыёны? Між іншым, я даведаўся, што ўсе работы, прадстаўленыя на праглядах, потым доўгі час зберагаюцца ў Парнаце, і гэта яго, так бы мовіць, неацэннае багацце. Зрэшты, як і слава саміх выхаванцаў — Надзеі Лівенцавай, Аляксандра Фінскага, Уладзіміра Крываблоцкага, Віктара Альшэўскага, Уладзіміра Савіча, Рыгора Сітніцы і многіх-многіх іншых, творы якіх цяпер ёсць у музейных і прыватных калекцыях па ўсім свеце.

Пінск, Піншчына — багатая на знакамітых землякоў старонка. Тут нарадзіліся вучоныя, пісьменнікі, мастакі, вынаходнікі… Імёнаў можна прыводзіць мноства. З часоў, у якія вяртаюць старыя паштоўкі, — літаральна армія зорак, дзякуючы якім развіваліся навука, мастацтва, ваенная справа…



Пінск. Пецярбургская вуліца. Пачатак XX ст.

# Знічкі Айчыны



Пінск. Палац Скірмунтаў. Пачатак XX ст.




Пінск. Манастыр. Канец XIX ст.

**Алесь Карлюкевіч**

З Піншчыны, з вёскі Плянта Мураваная паходжаннем мастак Альфонс Дунін Баркоўскі. У Лагішыне нарадзіўся геолаг, прафесар Аляксандраўскага універсітэта ў Варшаве Марцін Антоній Паўловіч. Піншчына выправіла ў вялікую творчую дарогу пісьменнікаў Франца Савіча, Міхаіла Дубянецкага, Міколу Антаноўскага, Любоў Тарасюк, Зіновія Прыгодзіча, Фёдара Одрача, Марыю Пшыбыляк, Яўгенію Янішчыц, Валерыя Грышкаўца, Леанарда Кандрашэнку…

Ёсць сярод пінчукоў і выбітныя вайскоўцы. Адзін з іх, здаецца, абыйдзены увагай. А між тым… Вось крыху падрабязней і раскажам пра Аляксандра Вітмера, які нарадзіўся ў Пінску. Асоба яркая і шматгранная, ён шмат што паспеў зрабіць за сваё жыццё. Ды фактычна, калі можна так выразна заўважыць, паспеў пражыць два жыцці. Другое пачалося ў Крыме, куды Аляксандр Мікалаевіч патрапіў ужо ў сталым узросце: улічваючы стан здароўя, дактары параілі ратавацца ў цёплай старонцы, на марскім узбярэжжы. Але ж не мог чалавек актыўны, дзейсны адседжвацца на пляжы ды адно толькі транжырыць генеральскую пенсію. Прыехаўшы ў Крым, маючы пэўны дастатак, у 1890-я гады Вітмер набыў мноства зямельных надзелаў у Севастопалі, Балаклаве, Ялце. Пабудаваў некалькі гасцініц і рэстаранаў на Ялцінскай набярэжнай. Адкрыў кінатэатр. Заснаваў друкарню. Адным з самых паспяховых праектаў вайскоўца, які доўгі час і не задумваўся ні пра які бізнес, у пачатку 1900-х стала будаўніцтва і адкрыццё мэбляваных пакояў "Арэанда". Забягаючы наперад, скажам, што гатэль "Арэанда", пабудаваны ў 1907 годзе, працуе і цяпер. Рэканструяваны ў 2001, гатэль у 2003 годзе становіцца ўдзельнікам гасцінічнай сеткі Premier Hotels. Калі некалькі гадоў назад праправнучка генерал-маёра Вітмера Л.Ю. Меншыкава (кандыдат гістарычных навук, яна да нядаўняга часу працавала выкладчыцай лацінскай мовы ў гімназіі № 610 Санкт-Пецярбурга) меркавала, дзе правесці прэзентацыю толькі што выдадзенай кнігі Аляксандра Мікалаевіча "Што бачыў, чуў, каго ведаю", то выбар прыпаў на ялцінскі гатэль "Арэанда".

Але вернемся да "першага жыцця" Аляксандра Вітмера. Нарадзіўся ён 26 сакавіка 1839 года. Ваенную адукацыю спярша атрымаў у Паўлаўскім кадэцкім корпусе. Удзельнічаў, як тады пісалі, у польскай кампаніі 1863 года. Служыў у Свеабаргу. Займаў пасаду начальніка штаба абароны Свеабарга ў 1878 годзе. Перад гэтым узначальваў штаб 2-га армейскага корпуса. Закончыў Акадэмію Генеральнага штаба. Займаў пасаду прафесара ваеннай гісторыі і ваеннага мастацтва Мікалаеўскай Акадэміі Генеральнага штаба. З 1882 года генерал-маёр Аляксандр Вітмер (яму было толькі 43 гады!) пакідае службу, сыходзіць у адстаўку. Пачынае займацца літаратурнай дзейнасцю. Піша п'есы. Выступае як публіцыст у "Русской старине", "Историческом вестнике", "Русской летописи", "Военном сборнике". Трэба заўважыць, што пры ўсёй публіцыстычнай актыўнасці тагачасных вайскоўцаў ваенны друк напрыканцы XIX стагоддзя быў наўздзіў казённым, прымітыўным. На працягу многіх дзесяцігоддзяў "надвор'е" на армейскай інфармацыйнай прасторы рабіла газетка "Инвалид». Вядомы кнігавыдавец Іван Сыцін на гэты конт выказаўся наступным чынам: "І ў самой гэтай назве адбілася як быццам насмешка гісторыі".




Рэальнае вучылішча на Вялікай Кіеўскай вуліцы. Пачатак XX ст.

Аляксандр Вітмер выдае ў 1864 годзе кнігу "Уплыў французскіх ваенных устаноў канца мінулага стагоддзя на ход рэвалюцыйных войн і крытычны разгляд кампаніі 1800г. у Італіі". Праз пяць гадоў да чытача прыходзіць новая работа нашага земляка — "1812 год у "Вайне і міры" … Л.М.Талстога". У сваіх публікацыях Аляксандр Мікалаевіч смела выкладаў уласныя крытычныя погляды на ўзбраенне рускай арміі, спосабы вядзення вайны Расіяй. Магчыма, гэта і стала прычынай звальнення Вітмера ў адстаўку. На шчасце, і заняткаў, і клопатаў, і захопленняў на той час у генерала было звышдастаткова: літаратурная работа, ваенная гісторыя, калекцыянаванне твораў выяўленчага мастацтва... А пасля — яшчэ і прадпрымальніцтва.

На пачатку 1900-х гадоў у Санкт-Пецярбургу і Севастопалі выходзяць кнігі Вітмера, прысвечаныя знакамітым военачальнікам: "Генерал Лявіцкі" і "Скобелеў і яго юнацтва". Памёр Аляксандр Мікалаевіч у 1916 годзе, у Ялце. Помнік Вітмеру — не толькі гатэль "Арэанда", але і кніга "Што бачыў, чуў, каго ведаў". У ёмістым фаліянце ў 700 з нечым кніжных старонак — успаміны пра генерала М. Скобелева, адмірала Бутакова, хіміка Бутлерава, мастака Ге і пра іншых вядомых сучаснікаў.

Часцей, чым прозвішча генерала-земляка, згадваецца імя пінчука Сямёна Абрамавіча Кузняца (ці Саймана Сміта), які нарадзіўся ў палескім гарадку 30 красавіка 1901 года. А завяршылася яго жыццё ў Кембрыджы ў 1985 годзе. І зразумела, чаму часцей гавораць менавіта пра яго… Кузнец — вядомы амерыканскі эканаміст. За поспехі ў распрацоўцы эканамічнай тэорыі, што паспрыяла новаму разуменню эканамічнай і сацыяльнай структуры і працэсу развіцця грамадства ў цэлым, адзначаны ў 1971 годзе Нобелеўскай прэміяй… Перад тым, як эміграваць з Расійскай імперыі ў ЗША, сям'я Кузняца некаторы час жыла ў Харкаве. Ступень доктара навук пінчук атрымаў у Калумбійскім універсітэце. Служыў прафесарам ва універсітэтах у Гарвардзе і Пенсільваніі. У 1954 годзе быў абраны прэзідэнтам Амерыканскай эканамічнай асацыяцыі. Узнагароджаны медалём Фрэнсіса Уокера.

Вось толькі некаторыя згадкі пра славутых пінчукоў, што трымалі ў памяці горад на Палессі як сваю малую радзіму. Спадзяёмся, што і Пінск памятае сваіх слаўных сыноў і дачок.



Пінск. Прыстань. 1930 г.




Пінск. Выгляд з ракі. Пачатак XX ст.

© В поисках утраченного

Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Калі чуеш “шэпт нябёсаў”...

## Андрэй Шацілін некалі спасцігаў у Мінску філасофскую навуку, менавіта тут прэзентаваў і сваю чарговую кнігу паэзіі

**Людміла Мінкевіч**



**Кнігі з аўтографам аўтара на добры ўспамін**

...Ён сарамліва ўсміхаецца, гартае лісты ў блакноце, час ад часу бярэ шклянку з мінералкай. А паэт Навум Гальпяровіч, вядучы творчага вечара, расказвае пра свайго таленавітага калегу з Украіны. Госць хвалюецца, хоць і дарослы мужчына… Упершыню ён “обмакнул перо Жар-птицы” ў паэтычнае чарніла толькі ў сорак гадоў. Каб даць жыццё дарослым, мудрым вершам.

“Я пішу для сябе, проста люблю гэтую справу, — прызнаецца Андрэй. — Паэзія для мяне — энергетыка, адточванне розуму. І, як правіла, звычайныя, штодзённыя рэчы як паэтычныя вобразы мяне не цікавяць”. Што ж, кожны шукае ў паэзіі сваё. І такія словы не дзіўныя для чалавека, які ў свой час закончыў філасофскае аддзяленне гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Дарэчы, у Беларусі па гэты час у яго нямала сяброў.

“Я прачытаю вам некалькі рэчаў… — так Андрэй называе свае творы. — Калі не прагоніце...”. І як жа не паслухаць таго, хто быццам транслюе праз вершы “шэпт нябёсаў”...

“Гэтая кніга — сапраўды кніга! — так проста, але вельмі дакладна сказаў пра шацілінскае “Троецарствие” філосаф, паэт і бард Алесь Камоцкі. — Бо ў тэкстах ёсць каханне і здрада, крыўда і прабачэнне, зямное і нябеснае, зіма і лета…”

У Андрэя вельмі развіта пачуццё прыгожага. Вось паслухайце:

*Расскажи мне о метели...*
*Мне не хватит белой краски.*
*После вьюги снежной ласки*
*Утром с крыш звенят капели...*

“Прачытаўшы зборнік, я нібы адкрыў для сябе зорнае неба, — з захапленнем сказаў Юрый Сапажкоў, супрацоўнік часопіса “Всемирная литература”. — Іх шмат, гэтых зорачак, і цяжка выбраць нейкую адну. Але ёсць сярод іх вершы, у якіх нельга не прыпыніцца, якія, бачна, пісаліся, як апошнія, што і азначае прафесіяналізм”.

Андрэй прызнаўся: часам ён сутыкаўся з тым, што словы не клаліся на паперу, і тады ён разумеў: тое, што яму дадзена, можа знікнуць. А “ўчарашні Ясенін заўтра ўжо — пусты, халодны залп... Калі ты штосьці выціскаеш з сябе, творчасць заканчваецца...” Але гэта — ні ў якім разе не пра Андрэя. Аўдыторыя горача ўспрымала паэзію, гучнымі авацыямі сустракала кожны твор паэта. І ён, улюўшыся ў атмасферу прыязнасці, вершамі адорваў удзячную публіку.

# З Нарвы — у Талін

**Марта Астрэйка**

**Выстава “Беларуская маляванка”, на якой прадстаўлены творы выхаванцаў Полацкай дзіцячай школы мастацтваў, праходзіць у Цэнтры рускай культуры эстонскай сталіцы**

“Работы выкананы ў стылі маляваных дываноў — аднаго з відаў народнай творчасці, які атрымаў назву “маляванка” і быў шырока распаўсюджаны ў Беларусі ў 30–50 гады мінулага стагоддзя. Праект годна працягвае самабытныя традыцыі беларускай народнай творчасці, ён ажыццёўлены пад кіраўніцтвам выкладчыкаў школы Наталлі Антымонавай і Дзмітрыя Сыцкага”, — расказаў генеральны консул Беларусі ў эстонскай сталіцы Аляксандр Астроўскі.

Выстава праходзіць па ініцыятыве і пры падтрымцы генеральнага консульства Беларусі ў Таліне. Раней яна з вялікім поспехам экспанавалася ў Нарвскай дзіцячай мастацкай школе.

# Семнаццаць галасоў надзеі

**Бразілія ўпершыню дэлегуе маладога выканаўцу на конкурс эстраднай песні “Віцебск-2009”**

Конкурс, як вядома, пройдзе на XVIII Міжнародным фестывалі мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску”. У арганізацыйным камітэце фестывалю паведамілі, што сёлета выканаўцы з 17 краін прыедуць у Віцебск на творчае спаборніцтва. Беларусь на ім прадставіць саліст Гомельскай абласной філармоніі Андрэй Коласаў. Як і летась, ад Расіі, Беларусі і Украіны будзе па адным удзельніку.

Затое на Міжнародны дзіцячы музычны конкурс “Віцебск-2009” гэтыя дзяржавы, як і раней, будуць прадстаўляць па двое канкурсантаў. За Беларусь выступіць 7-гадовая Маша Новік з Нацыянальнага цэнтра музычных мастацтваў і 11-гадовая Лаліта Гайдукевіч.

XVIII Міжнародны фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” пройдзе з 10 па 16 ліпеня.



**Свята ў Віцебску — усім на радасць**

**КРЫЖАВАНКА**

# Старажытная Беларусь



**Па гарызанталі:**

6. Паўднёвыя качэўнікі, супраць якіх прыняў удзел у паходзе полацкі князь Усяслаў Чарадзей. 7. Казанне, або .... Адзін з жанраў паэтычнай старажытнабеларускай літаратуры, у якім напісана шмат твораў беларускага асветніка XII стагоддзя Кірылы Тураўскага. 9. Прыбудова да хаты з трох сцен. 11. Частка ствала, галін дуба ці вольхі, адвар якіх выкарыстоўваўся ў старажытнасці для прыгатавання чарніл. 12. Прадукт творчай працы. 13. Свецкае імя асветніцы XII ст. Ефрасінні Полацкай, якая адкрыла ў полацкім манастыры першую ва Усходняй Еўропе школу для навучэння грамаце. 16. Рыштунак для запрэжкі, які выраблялі старажытныя майстры. 20. Майстар па вырабе прадметаў з каштоўных металаў; прафесія, распаўсюджаная ў гарадах Старажытнай Беларусі. 22. Фарба чырвонага колеру, якая ўжывалася ў старажытнасці для напісання кніг на пергаменце. 23. Архітэктурная дэталь паўкруглай формы, якая ўпершыню ва Усходняй Еўропе была выкарыстана полацкім дойлідам Іаанам пры пабудове Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. 24. Кароткі сатырычны верш. 25. Адзін з гарадоў Беларусі, дзе археолагамі была знойдзена грамата на бяросце. 27. Налог, які плаціла насельніцтва свайму князю. 29. У дарэвалюцыйнай Расіі член гарадской думы. 34. Напісанне нанава, капіраванне рукапісаў, творчая праца, якой займаліся манахі ў манастырах. 36. “Парой ён супыняецца, каб лепей завастрыць \\ ... гусінае”. З верша Максіма Багдановіча “Перапісчык”. 37. Адна з культур, якую вырошчвалі нашы далёкія продкі. “Сей ... у грязь — будзеш князь” (прык.) 38. Павець, сцены якой зроблены з пераплеценых галінак. 39. Узорыстая шаўковая тканіна, якую прывозілі купцы з Візантыі і Блізкага Усходу. 40. Сафійскі... Самая старажытная мураваная пабудова на беларускай зямлі, узведзеная ў Полацку ў сярэдзіне XI ст.

**Па вертыкалі:**

1. Участак паміж судаходнымі рэкамі, прыдатны для перацягвання судна для працягу шляху, на якім найчасцей узнікалі беларускія гарады. 2. Загалоўная... Знак азбукі, які ў старажытных кнігах быў значна большы за радкавы, і ўпрыгожваўся ўзорамі. 3. Участак высечанага лесу. 4. Ніжняя частка збудавання, падмурак. 5. Доўгая верхняя вопратка з даматканага сукна, якую насілі ў даўнія часы. 8. Сучасная назва эстонскага горада Юр'ева, які ў 1208 годзе абараняў полацкі князь Вячка, дзе і загінуў у баі. 10. Так у старадаўняй Беларусі называлі купцоў. 14. Вядомыя з глыбокай старажытнасці песенна-рэчытатыўныя творы, у якіх аплаквалася смерць блізкага чалавека. 15. Тураўскае .... Старажытны рукапісны помнік XI ст., самая ранняя кніга, створаная на беларускіх землях. 17. Асуджэнне, са злавесным прадракданнем, якое было напісана на крыжы Ефрасінні Полацкай, і адрасавалася таму, хто знясе крыж са Спасаўскай царквы ў Полацку. 18. Сход духавенства. 19. Горад на Гомельшчыне, заснаваны крывічамі, якому сёлета спаўняецца 850 гадоў з часу першага ўпамінання ў летапісе. 21. “Тут ціша, тут спакой — ні шуму, ні клапот.\\ Ён пільна ... чацвёрты піша год. З верша М. Багдановіча “Летапісец”. 26. Насельніцтва краіны — радзімы ўзнікнення пісьменнасці на Зямлі. 28. Прастора, далягляд. 30. Тонкі слой на паверхні чаго-небудзь. 31. Імя кіеўскага манаха, аўтара старажытнага твора “Аповесці мінулых часоў”. 32. Прадмет прадназначаны для ўпрыгожвання каго-, чаго-небудзь. 33. Тое, што і асілак, велікан. Адсюль назва старажытнага кургана-валатоўкі. 34. Жалезны наканечнік для сахі, мноства якіх было знойдзена беларускімі археолагамі ў культурных слаях V–XII стагоддзяў.

**Падрыхтаваў Лявон Целеш
г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:** 6.Торкі. 7. Слова. 9. Трысцен. 11. Кара. 12. Твор. 13. Прадслава. 16. Вупраж. 20. Ювелір. 22. Кінавар. 23. Какошнік. 24. Эпіграма. 25. Віцебск. 27. Даніна. 29. Гласны. 34. Перапіска. 36. Пяро. 37. Авёс. 38.Тынянка. 39. Парча. 40. Сабор.

**Па вертыкалі:** 1.Волак. 2.Літара. 3.Лесасека. 4.Аснова. 5.Світа. 8.Тарту.10.Госці. 14. Галашэнне. 15. Евангелле. 17. Праклён. 18. Сінкліт.19. Чачэрск. 21. Летапіс. 26. Егіпцяне. 28. Абсат. 30. Налёт. 31. Нестар. 32. Украса. 33. Волат. 34. Нарог.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 710